# НАША СВАБОДА

№34(121) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

30 САКАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





стар. 7

Украіна: канфрантацыя

## Абрабавалі Хельсінкскі камітэт

*У ноч на 29 сакавіка ў Мінску абрабавана цэнтральная прыёмная грамадскай арганізацыі «Беларускі Хельсінкскі камітэт» (БХК), размешчаная па адрасе: вул. Карла Лібкнехта, 86/1.*

Як паведаміў БелаПАН куратар рэгіёнаў БХК Сяргей Аніська, узламаныя дзверы раніцай 29 сакавіка ўбачыла адна з супрацоўніц офіса. Скрадзеная ўся камп'ютэрная база дадзеных па назіранні за выбарамі і выкананнем правоў чалавека ў Беларусі за апошнія 5 гадоў. Разам з тым засталося некрануты дарагое абсталяванне — факс, прынтэр і гэтак далей.

Абрабаваны офіс не быў абсталяваны сігналізацыяй. Па словах Сяргея Аніскі; ніхто з суседзяў — а памяшканне БХК размешчанае на першым паверсе жылога дома — нічога не чуў. Злачынцаў не спыніла і тая абставіна, што праз дарогу ад офіса, прыкладна ў метрах ста, знаходзіцца школа перападрыхтоўкі міліцэйскага саставу, якая пастаянна ахоўваецца.

Варта зазначыць, што гэта ўжо трэцяе за апошнія 4 гады абрабаванне БХК: першае адбылося ўвясну 1996 года, другое — увосень 1999-га. Абодва злачынствы засталіся нераскрытымі і, як падкрэсліў Сяргей Аніська, праходзілі па аналагічным сцэнарыі — выкрадалася выключна база дадзеных.

Прадстаўнікі Беларускага Хельсінкскага камітэта паведамілі аб здарэнні ў РУУС Маскоўскага раёна.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН**

## День Воли в Варшаве

В этом году празднование Дня Воли в Варшаве было оказией для встречи как многочисленных белорусов, которые учатся и живут в Польше, так и тех поляков, которые интересуются нашей страной.

Около 200 человек пришло в студенческий клуб «Проксима» на концерт известной белорусской фольк-роковой группы «Крыві», организованный Институтом белорусской культуры в Варшаве. 25 марта наряду с «Крыві» выступила также варшавская фольк-группа «Госці з Нізін», репертуар которого состоит из песен с польско-белорусского пограничья. В этот вечер состоялась также презентация первого номера «Інфарматара» — печатного издания Института белорусской культуры, в котором публикуются материалы как на белорусском, так и на польском языках. Концерт посетили также представители западноевропейских посольств.

26 марта День Воли был отмечен и в стенах Варшавского университета, где Белорусская ассоциация студентов и клуб «*Albaruthenika*» провели День Беларуси. В рамках Дня с лекциями об истории Беларуси в XX веке, этнографических исследованиях национального самосознания белорусов и об экономической ситуации в нашей стране выступили польские и белорусские ученые.

А вечером 26 марта перед посольством Беларуси в Варшаве прошел пикет, участники которого демонстративно повернулись спиной к зданию, украшенному символами времен советской Беларуси.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

# Пераадолелі стэрэатып — і перамаглі



Фота Ул. ШЛАПАКА

Колькі разоў раней беларуская футбольная зборная трапляла ў незайздроснае становішча каманды, якая ўпусціла перамогу альбо важную нічыю ў самай канцоўцы гульні з-за крыўднага гола, забітага сапернікам. І вось учора гэты дрэнны стэрэатып быў нашымі пераадолены. На дзевяностай хвіліне гульні нападаючы беларускай каманды Раман Васілюк трапным ударам пасылае мяч у сетку варот зборнай Нарвегіі і тым самым здабывае тры вельмі важныя ачкі для ўсіх нас. Перад гэтым быў гол у першым тайме нашага «кіяўляніна» Аляксандра Хацкевіча і мяч у адказ лепшага нарвежскага футбаліста Солшэра. ▶

*Заканчэнне на стар.8*

# По дороге из Минска в Рим

*Вслед за коллегами из других евроатлантических структур, теперь посланцы Парламентской ассамблеи NATO решили познакомиться с Беларусью. Завтра, 31 марта, о своих впечатлениях они расскажут в Риме.*

Прошедшему в начале недели визиту в Минск делегации Парламентской ассамблеи *NATO* власти лишь на первый взгляд не придавали особого значения. Мол, так себе, обычный рабочий визит европейских парламентариев, которых интересует белорусский феномен. До этого ведь приезжали посланцы из ОБСЕ, Совета Европы, Европарламента. А государственные СМИ, обычно уделяющие непомерно большое внимание другим зарубежным гостям разных рангов и видов, на этот раз подчеркнуто были немногословны. Как раз такое отношение и позволяет предполагать, что к визиту делегации в нынешнем руководстве Беларуси отнеслись весьма настороженно. Оно и понятно. В ответственный для себя год, когда все ожидают проведения в Беларуси обещанных президентских демократических выборов, правящий режим все больше испытывает нервозность по поводу приезда гостей из таких международных структур.

Первый раз представители Парламентской ассамблеи *NATO* приезжали в Беларусь весной 1995 года в качестве наблюдателей на парламентских выборах. Если кто помнит, тогда полностью Верховный Совет 13-го созыва удалось сформировать лишь к осени. ▶

*Окончание на стр.3*

# Клафелінавы міністр?

*Міністраў абароны мяняюць не часта. Калі такое адбываецца, гэта заўсёды падзея, бо з усіх сілавікоў міністр абароны – самы магутны.*

Праўда, папраўка на беларускія рэаліі гэтую магутнасць нашага ваеннага начальніка ставіць пад пытанне. За гады праўлення Аляксандра Лукашэнкі было зроблена ўсё магчымае, каб абяссіліць войска і знізіць яго грамадскі статус. І ўсё ж беларуская армія застаецца немалой пагрозай для таго, хто ўзурпіраваў вышэйшую ўладу ў краіне: хаця б таму, што давер насельніцтва да войска значна вышэйшы за той, што маюць міліцыя ці КГБ, не кажучы ўжо пра розныя чыноўніцкія структуры. Карацей, ключы ад лёсу Лукашэнкі носіць у сваёй кішэні таксама і міністр абароны.

Пяць гадоў запар гэта была кішэня генерал-палкоўніка Аляксандра Чумакова. Наколькі выбар быў удалы, магчыма меркаваць па шлейфе скандалаў, што суправаджалі былога міністра. Самы гучны з іх звязаны з дыягназам, які быў пастаўлены Чумакову вайсковымі дактарамі. Эксперты знайшлі ў яго хваробу, несумяшчальную з выкананнем абавязкаў міністра і ўвогуле з вайсковай службай. Міністр, аднак, з эскулапамі не пагадзіўся, што прывяло да шэрагу гучных адставак і судовых разбіральніцтваў. А тым часам справы ў войску, паводле кампетэнтных крыніц, імкліва пагаршаліся.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Узбраенне маральна старэла, бо грошай на новыя ўзоры зброі не было, кваліфікацыя вайсковых спецыялістаў падала, бо ў войску на ўсім эканомілі, у тым ліку на трэнінгах, нізкія заробкі афіцэраў прывялі да маральнага раскладу – па дадзеных вайсковай пракуратуры, за апошнія два гады колькасць афіцэраў, якія пайшлі на злачынствы з мэтай зарабіць грошы, павялічылася ледзь не ўдвая.

Дзіўна, але гэтыя негатыўныя з'явы не знайшлі адлюстравання на пазачарговай нарадзе ў міністэрстве абароны, калі было абвешчана пра адстаўку А.Чумакова. ▶

*Заканчэнне на стар.6*

## НАВІНЫ

■ **Дзяржаўнае аб'яднанне «Белтэлекам» паведаміла пра тое, што падвысіліся кошты на доступ у інтэрнэт. Падвышка складае 15%.** Цяпер хвіліна знаходжання ў сусветным сеціве каштуе 14,3 рубля ўдзень і 11 рублёў з вечара. Але разам з тым «Белтэлекам» зрабіў інтэрнэт у выхадныя і святочныя дні бясплатным.

■ **На сёння працэдуру перарэгістрацыі прайшлі толькі 40% сталічных суб'ектаў гаспадарання.** Завяршаецца ж перарэгістрацыя 1 ліпеня, а падаць дакументы для яе мінскія прадпрымальнікі павінны да 1 траўня (справа ў тым, што разгляд дакументацыі доўжыцца 2 месяцы).

■ **У сакавіку зноў павялічыліся тарыфы на жытлова-камунальныя паслугі.** Так, на 3% у параўнанні з лютым узрасла кватэрная плата, плата за карыстанне ліфтам і гарачая вада. А вось халодная вада і каналізацыя – на 30%. У Мінску гэты тарыф павялічыўся з 54,4 да 70,7 рубля за кубічны метр.

■ **З Растова-на-Доне ў Беларусі днямі чыгункай былі адпраўленыя 50 камбайнаў тамтэйшай маркі «Дон».** Гэта паўсотня камбайнаў сталася першай партыяй, што мусяць быць прывезеныя паводле кантрактаў, заключаных з Віцебскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцямі. Усяго кантракты заключаныя на некалькі сотняў камбайнаў.

■ **Спецыялістаў міністэрства па надзвычайных сітуацыях непакоіць стан лёдавага покрыва на шэрагу вялікіх вадаёмаў.** У прыватнасці, гэта Мінскае мора, Вілейскае вадасховішча і возера Нарач. Таўшчыня лёду тут не перавышае 20-30 сантыметраў, таму ёсць небяспека жыццю рыбакоў. Напрыклад, на Міншчыне сёлета патанула 11 чалавек.

■ **У Беларусі бліжэйшым часам з'явіцца Дзяржаўная праграма па супрацьдзеянні прастытуцыі і гандлю жанчынамі.** Зараз створаная рабочая група па яе распрацоўцы ў складзе прадстаўнікоў міністэрстваў унутраных справаў, аховы здароўя, юстыцыі, культуры, адукацыі і сацыяльнай абароны. Праект гэтай праграмы мусіць быць прадстаўлены ў Савет міністраў да 1 кастрычніка гэтага года.

■ **На Магілёўшчыне каля трох дзесяткаў прадпрыемстваў – стратныя. За апошні год запасы прадукцыі на складах павялічыліся на 20%.** Зараз іхні агульны кошт – 35 мільёнаў долараў. З усёй прадукцыі нававырабленая складае ўсяго 4%.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1315**

## Зварот мінпрыроды

Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі звярнулася да жыхароў краіны з заклікам не шкодзіць прыродзе, не выпальваць сухой расліннасці, не праводзіць сельскагаспадарчыя палы.

Спецыялісты мінпрыроды тлумачаць, што веснавое спальванне сухой травы наносіць вялікія страты складу разнатраўя, на выпаленых участках пачынае буяць пустазелле. Агонь палаў вынішчае разам з раслінамі карысных для нармальнага функцыявання палеткаў казулек, жабаў, вужоў, яшчарак. Гінуць у полымі і вывадкі птушак. Атмасфера пры такіх выпальваннях губляе кісларод, а калі гарыць сухатраўе ўздоўж дарог, дык пал суправаджаецца выдзяленнем атрутных рэчываў. Асабліва небяспечныя палы на забруджаных радыенуклідамі землях — з дымам на вялікую адлегласць пераносяцца радыеактыўныя рэчывы.

Мінпрыроды заклікае насельніцтва па-грамадзянску паставіцца да праблемы. Адначасна мінпрыроды нагадвае, што, згодна з артыкулам 77 Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях, за выпальванне сухой расліннасці, ржышча, пажніўных рэштկаў на палях або за непрыняцце захадаў па ліквідацыі палаў на вінаватых накладаецца штраф у памеры да 25 мінімальных заробкаў.

**Генадзь ДУДАРЭВІЧ**

## Ручны трэнінг мытнікаў

На мытным пункце «Казловічы» доўжыцца серыя затрыманняў вялікагрузных транспартных халадзільнікаў з кантрабанднымі кветкамі з галандскіх і нямецкіх аранжарэяў. Гэтымі днямі разыходжанне наяўнай колькасці цюльпанаў, ружаў, хрызантэмаў і іншых яркіх раслінаў цяплічнага паходжання з лічбамі ў таварасуправаджальных дакументах склала больш як 140 тысяч штук на агульную суму 7 мільёнаў беларускіх рублёў.

Камп'ютэрную тэхніку, гаспадарчыя тавары, цыгарэты, спіртовыя напоі, мэблю і ўсялякі іншы каштоўны груз мытнікі пераправяраюць стопрацэнтна. Урэшце ад іхняй пільнасці паступае найбольшая сума сродкаў у бюджэт. У 2000 годзе гэта было 24 мільярды 953 мільёны рублёў, што ў 3 разы больш, чым у 1999 годзе. Былыя «чыстаплюі», як раўніва празвалі мытнікаў у памежным Брэсце, зараз усё больш асвойваюць чорнарабочы занятак, як, прыкладам, пералік кветак. Ну а каб ручны трэнінг быў больш выніковы, сёлета ўпершыню для ўсіх без выключэння 800 супрацоўнікаў мытні «Заходні Буг» распрацаваныя і ўключаныя ў план работы нарматывы па агульнафізічнай падрыхтоўцы.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## За два месяцы — 18 тысяч злачынстваў

За студзень і люты гэтага года ў Беларусі зарэгістравана 17.702 злачынствы. Як паведамляе міністэрства статыстыкі і аналізу са спасылкай на звесткі МУС, гэта на 7,8% меней, чым у студзені - лютым 2000 года.

На 21% знізілася колькасць зафіксаваных выпадкаў згвалтавання і замаху на згвалтаванне (49 злачынстваў), на 14% — хабарніцтва (154), на 4,6% — хуліганства (854). Разам з тым на 0,6% узрасла колькасць злачынстваў, звязаных з наркотыкамі (488), на 5,3% — забойстваў і замахаў на забойства (180), на 6,7% — выпадкаў нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў (318).

За гэты перыяд выяўленыя 6.948 злачынцаў. Да крымінальнай адказнасці прыцягнутыя 6.432 чалавекі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

# Нафты замала, затое багата «мінералкі»

А ад замежнай нафты Беларусь не адмовіцца ніколі, бо беларускія нетры забяспечваюць толькі 10% ад патрэбаў: з неабходных на год 10-11 мільёнаў тонаў нафты толькі 1,8 мільёна тонаў здабываецца непасрэдна ў нас. У краіне адкрыта 64 нафтавыя радовішчы, але запасы нафты з кожным годам змяншаюцца. На першых радовішчах, якія былі адкрытыя ў 60-ых гадах мінулага стагоддзя, запасы нафты былі па 20-30 мільёнаў тонаў, а зараз нашы геолагі з «Белгеалогіі» працуюць ужо з радовішчамі, дзе запасаў нафты не болей за 1 мільён тонаў. Напрыклад, за 2000 год тут было прырошчана, як кажуць спецыялісты, 406 тысяч тонаў нафты, а ў бягучым годзе і да 2005 года плануецца, што прырост складзе не болей за 200-300 тонаў на год.

А вось дэфіцыту мінеральных водаў ды калійных соляў няма. Мінеральныя воды розных тыпаў мінералізацыі маюцца па ўсёй тэрыторыі краіны і распрацоўваюцца геолагамі па заяўках зацікаўленых прадпрыемстваў. На базе кожнага беларускага санаторыя ёсць мінералагічныя лячэбніцы, а больш за 60 заводаў займаюцца разлівам мінеральнай вады на продаж. Таму, у прынцыпе, патрэбаў у іншаземнай вадзе няма.

Што да чорнай руды, то знойдзеныя запасы ацэньваюцца ў 230 мільёнаў тонаў, а прырошчана за мінулы год 8,7 мільёна тонаў. У «Белгеалогіі» (дарэчы, дзяржаўнае фінансаванне складае тут усяго 68%, а астатняе — ад работ, якія выконваюцца па дамовах з прадпрыемствамі) вядуць таксама працу па выяўленні перспектыўных радовішчаў алмазаў. Так, ужо знойдзеныя 120 анамаліяў, дзе яны гіпатэтычна могуць быць. У 8 з іх алмазы ўжо знойдзеныя, праўда, дробныя – 0,2-0,3 сантыметра ў дыяметры. Да таго іх не шмат. Золата на тэрыторыі краіны сустракаецца, але прамысловага ўтрымання пакуль не адшуквалася – некалькі грамаў на тону выкапняў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# В круге последнем?

Житель Беларуси, ее гражданин Александр Лукашенко единогласно был избран на второй срок президентом Национального олимпийского комитета. Пять лет назад президенту страны во время голосования на Олимпийском собрании был выставлен один «неуд», международным гроссмейстером Виктором Купрейчиком.

Что ж такого значительного произошло за это время, что все поголовно проголосовали «за». Еще раз перечитываю Обращение двенадцати олимпийских чемпионов. В нем они благодарят Лукашенко за построение ледовых дворцов, недостроенный спортивно-оздоровительный комплекс «Олимпийский», одноименный район, где проживают несколько десятков спортсменов, приблизительно столько же их тренеров, уйма работников спортивной отрасли и еще очень много разных людей, порою далеких от спорта.

Остальные заслуги кажутся какими-то неосязаемыми, почти виртуальными...

**Владимир ДОВЖЕНКО**

# Улады на 25 сакавіка не забыліся

Суд над лідэрам Маладога Фронту Паўлам Севярынцам перанесены на 5 красавіка. Севярынец быў затрыманы 27 сакавіка падчас правядзення палітычнага перформанса «Мабілізацыя на выбары» каля будынка Белтэлерадыёкампаніі на вуліцы Макаёнка, 9 у Мінску. Аднак пратакол у дачыненні да лідэра «МФ» быў складзены не за гэтую акцыю, а за яго ўдзел у шэсці і мітынгу ў Дзень Волі 25 сакавіка. Як расказаў Севярынец, міліцыя ніяк не магла кваліфікаваць дзеянні маладафронтаўцаў каля будынка БТ. У рэшце рэшт міліцыянеры расцанілі гэта як жарт, за які адказнасць у Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях не прадугледжаная. Тады вырашана было скласці пратакол за 25 сакавіка.

Падчас суда Севярынец заявіў хадайніцтва аб удзеле ў працэсе адваката, якое было задаволенае. Разгляд адміністрацыйнай справы перанесены на 5 красавіка.

Пасля вызвалення лідэра Маладога Фронту з-пад варты намеснік начальніка Цэнтральнага РУУС, паводле словаў Севярынца, сказаў прыблізна наступнае: «Вельмі шкада, што вас вызвалілі, мы столькі людзей задзейнічалі і сіл патрацілі, каб вас затрымаць і даставіць у суд». На што адзін з маладафронтаўцаў адказаў: «Не бядуйце, калі-небудзь і мы вас вызвалім».

У гэты ж дзень у судзе Цэнтральнага раёна былі разгледжаныя адміністрацыйныя справы двух удзельнікаў святкавання Дня Волі ў Мінску. Эліна Новік і Максім Куксо былі прызнаныя парушальнікамі парадку правядзення вулічнага шэсця і мітынгу і аштрафаваныя суддзёй Наталляй Вайцяховіч на 20 мінімальных зарплатаў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

# *Show must go on!*

31 марта в Минске открывается первый международный фестиваль хорошей музыки «Это — рок-н-ролл!» Предполагается, что в рамках фестиваля выступит ряд легендарных рок-групп.

Организовала фестиваль компания «Юкола-Сервис» — официальный представитель «Дженерал-моторс» в Беларуси. Продолжаться он будет более полугода, первый концерт состоится 31 марта, гала-концерт — 1 сентября. Предполагается, что каждый месяц будет проходить по концерту с участием как минимум двух молодых групп, а также двух известных команд, причем, одной из них станет легендарная зарубежная команда. На первом концерте в роли хедлайнеров на нем выступят «*Uriah Heep*» и «Крематорий», а в качестве конкурсантов — «Братья Карамазовы» и питерская группа «НЭП». Кто из этих двух групп попадет на заключительный гала-концерт, будут решать зрители путем голосования по интернету. И хотя на первый этап белорусские группы попасть не успели, в дальнейшем они тоже станут участниками фестиваля, цель которого — показать, что и в Беларуси можно проводить масштабные и долговременные мероприятия с участием всемирно известных рок-исполнителей и устроить настоящий праздник рок-н-ролла для зрителей.

Что касается призов для молодых групп-победителей, то саму возможность выступить на одной сцене с «*Uriah Heep*» и «*Nazareth*» уже вполне можно рассматривать как награду.

Весной концерты будут проходить в спорткомплексе Уручье, а когда потеплеет, возможно, в тех же краях на открытой спортивной площадке. Поскольку в Минске аппаратуры, которая могла бы «накрыть» звуком такое пространство, нет, техника будет доставляться из Москвы. Для того чтобы всем все было видно, во время концерта рядом со сценой будет установлен экран размером 6 на 8 метров, на который 3-4 камерами будет транслироваться весь концерт. Предполагается обеспечить подвоз зрителей от станции метро «Восток», выпустить сувенирную продукцию с логотипом фестиваля. Чтобы избежать толкучки, а также привычной для минских концертов ситуаций, когда кажется, что милиции больше, чем зрителей, ведутся переговоры с органами правопорядка.

Билеты на первый концерт с участием «*Uriah Heep*» будут стоить от 10 до 20 тысяч рублей.

Через некоторое время после окончания фестиваля предполагается провести концерт под названием «*Kings of Rock*». *Show must go on!*

**Виктория РУТКЕВІЧ**

## Кузня палатных кадраў

Такія важкія асобы адміністратыўнай «вертыкалі», як першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Замяталін, памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Аляксандр Пазняк ды каманда іншага высокапастаўленага чынавенства, палічылі за неабходнасць прысутнічаць на пленуме ЦК Беларускага патрыятычнага саюза моладзі.

Па савецкай завядзёнцы такі дагляд асвячае змену кіраўніцтва. І сапраўды, у гэтай маладзёжнай арганізацыі, якая карыстаецца актыўнай увагай і падтрымкай А.Лукашэнкі і адпаведна ўладаў усіх узроўняў, адбылася змена лідэраў.

Першы сакратар Усевалад Янчэўскі быў вызвалены ад сваіх абавязкаў для выканання дэпутацкіх абавязкаў у палаце прадстаўнікоў. Замест яго першым сакратаром ЦК БПСМ стаў Юрый Салаўёў (да гэтага ён быў проста сакратаром ЦК).

**Міхаіл КАНТАРОВІЧ**

## Пракаповіча вартаваў АМАП

26 сакавіка ў Брэсце адбыўся сход ініцыятыўнай групы падманутых укладчыкаў гарадскога філіяла банка «БелБалтыя», а ранкам 28 сакавіка больш як 150 чалавек сабраліся на плошчы перад будынкам аблвыканкама, каб патрапіць да старшыні Нацбанка Пятра Пракаповіча. Банкір у гэты дзень абяцаў весці прыём грамадзянаў па асабістых заявах і скаргах. У спісе папярэдняга запісу было да 60 прозвішчаў.

Натоўп на плошчы змяніў планы: выкліканы атрад АМАПа ў аўтобусе з зачыненымі вокнамі толькі разгнявіў людзей сталага веку, і яны групай рушылі да ўваходных дзвярэй «белага дома» ўлады. Міліцыянтам з аховы аддалі загад суправаджаць гэтых наведвальнікаў у залу паўпадвальнага памяшкання, куды неўзабаве спусціўся і сам Пракаповіч. На працягу амаль трох гадзінаў не спыняўся непрымірымы дыялог, адзіным станоўчым вынікам якога можна хіба лічыць, што 68-гадовая хворая пенсіянерка атрымае ўсё-такі частку сваіх валютных зберажэнняў у «БелБалтыі» на платную аперацыю ў лякарні. Астатнім было паўторана, што спадзявацца на які-небудзь зрух у справах 3.000 брэсцкіх кліентаў камерцыйнага банка не варта да жніўня. І хаця стомленыя на фармальнай сустрэчы людзі вяла разыходзіліся ад цэнтра горада, аднак АМАП у аўтобусе цікаваў за імі да апошняга.

**Галіна БАРАВАЯ**

## У чаканні паводкі

Па прагнозах Гідраметцэнтра, вялікай веснавой паводкі, як тое было ў 1999 годзе, сёлета не чакаецца. Узровень вады на рэках будзе ніжэй за норму.

Пакуль што хутчэй за іншыя рэкі расце ўзровень вады на Прыпяці, Случы ды Бесядзі: на працягу мінулага тыдня ўзровень вады там падвышаўся на 19 сантыметраў на суткі, что прывяло да падтаплення 30 метраў дарогі, якая будуецца ў Магілёўскай вобласці. Але сакавіцкія маразы запаволілі працэс таяння снегу і павялічылі снегавы покрыў яшчэ на 12 см. Таму, як адзначыў намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях Энвер Барыеў, становішча вельмі напружанае, і ў любы момант могуць з'явіцца праблемы.

Калі на тэрыторыі нашай краіны лёд на рэках ужо пайшоў, то на тэрыторыі паўночных краінаў-суседак ён яшчэ захоўваецца, і калі ён растане там, то на нашай тэрыторыі можна чакаць лёдавых затораў, якія могуць пашкодзіць і разламаць нашыя дамбы, гідраахоўныя збудаванні і масты. Сітуацыя можа ўскладніцца і тым, што большасць з іх даўно «перажылі» свой тэрмін эксплуатацыі і знаходзяцца ў аварыйным стане.

МНС ужо закупіла перамяшчальныя і стацыянарныя помпавыя станцыі, папоўненыя запасы лекавых сродкаў, арганізаваны дадатковы завоз тавараў першай неабходнасці ў паводканебяспечныя раёны.

Трэба адзначыць, што паводка можа даваць і плён, праўда, калі адбываецца без эксцэсаў. Па-першае, глеба, якая была затопленая вадой, становіцца больш урадлівай за кошт рачнога глею, а па-другое, ён зніжае пажаранебяспечнасць тарфянікаў у сухое лета і дае запасы вады для тушэння такіх пажараў. А лета 2001 года, паводле прагнозаў, будзе сухім і спякотным.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Выпівай беларускае

Учора, 29 сакавіка, калі адзначаўся Дзень піва, Малады Фронт правёў акцыю ў абарону беларускага піва. Яна называлася «Адлівай расійскае – выпівай беларускае» і была праведзеная каля расійскай амбасады ў Мінску.

Сябры Маладога Фронту вылілі на зямлю каля будынка амбасады 20 пляшак з півам «Балтыка». Акцыя сталася для ахоўнікаў расійскай амбасады нечаканай, і затрыманняў сярод маладафронтаўцаў не было ўчынена. Праўда, іх дзеянні здымаліся адным міліцыянтам на відэакамеру. Пасля вылівання «Балтыкі» сябры Маладога Фронту выправіліся ў бар «Мінскі бровар», дзе ў альтэрнатыву расійскаму піву выпілі там 20 пляшак нашай «Аліварыі».

Як распавёў лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец, моладзь такім чынам пратэставала «супраць распродажу напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў беларускай маёмасці расійскім манапалістам». Акцыя ладзілася ў падтрымку беларускіх вытворцаў піва і ў абарону беларускага піўнога рынку. Нагадаем, што нядаўна броварная кампанія «Балтыка» абнародавала свае планы па пакупцы самага буйнога піваварнага беларускага завода «Крыніца».

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Кансультант Нацбанка агітуе за рубель

Дэкан эканамічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, прафесар Міхаіл Кавалёў, які адначасна выконвае функцыі кансультанта Нацыянальнага банка Беларусі, даў інтэрв'ю газеце «Рэспубліка». На думку прафесара, пераход на расійскія рублі ў Беларусі можна пачаць ужо сёлета, не адкладваючы справу пазбаўлення ад нацыянальнай валюты на чатыры гады. Кансультант Нацбанка радзіць правесці эксперымент з расійскімі грашыма для беларускай эканомікі.

М.Кавалёў мяркуе, што для ўвядзення расійскай валюты Беларусь мусіць апрача стабілізацыйнага атрымаць ад Расіі тэхнічны крэдыт для пераходу ва ўзаемных разліках з Расійскай Федэрацыяй на іхныя рублі. Інакш кажучы, патрэбна правесці дэдаларызацыю (адмову ад долараў). Пры гэтым зусім не выключаная пагроза дэманетызацыі беларускай эканомікі, у першую чаргу гэта можа адгукнуцца недахопам абаротных сродкаў у беларускіх прадпрыемстваў, стратай іх рэнтабельнасці. «Калі прадпрыемства рэнтабельнае, дык грошы ў яго будуць, і не так ужо важна, — думае ўслых дэкан з БДУ імя Леніна, — у якім банку, мінскім ці маскоўскім, яно будзе іх захоўваць». Аднак, магчымасць захавання рэнтабельным прадпрыемствам сваіх грошай у швейцарскім банку кансультант Нацбанка не пракаментаваў. Але, ведаючы пра гэрасны лёс мноства маскоўскіх банкаў і пра мітынгі пратэсту абрабаваных банкамі расіянаў, усё ж вельмі важна, у які банк іх аддаваць. Тут пафас прафесара Кавалёва не адпавядае рэчаіснасці. Цяжка пагадзіцца і з ягонай наступнай тэзай: «Рэспубліканскі бюджэт, — падкрэслівае М.Кавалёў, — будзе залежаць толькі ад эканамічнага стану суб'ектаў гаспадарання, але не ад таго, у расійскіх рублях вымяраюцца падаткі, у саюзных або ў беларускіх». Аднак у якіх рублях вымяраецца – такая і дзяржава. Ёсць розніца – працаваць на сябе, на сваю будучыню ці на будучыню Расійскай Федэрацыі.

Сярод цяжкіх праблемаў, злучаных з пераходам на расійскі рубель, кансультант Нацбанка адзначыў праблему кошту энерганосьбітаў і сыравіны. У Расіі яны ў 2-3 разы ніжэйшыя, а таму пры адзінай валюце беларуская прадукцыя зусім страціць канкурэнтаздольнасць. Адпаведным вынікам гэтага стане поўная адсутнасць у беларусаў грошай, якія яны меліся б захоўваць у маскоўскіх банках. Аднак прафесар эканомікі спадзяецца на дабрыню расійскіх вытворцаў нафты і газу. «У Расіі, — гаворыць дэкан эканамічнага факультэта БДУ, — павінны разумець, што без адзіных цэнаў на нафту і газ не можа быць і адзінай валюты». Ну, а калі не здолеюць зразумець ці не зразумеюць, чаму яны нам павінны — што тады?

М.Кавалёў разгледзеў і варыянт пераходу на валюту ЗША. Па яго меркаванні, гэта ўжо часткова адбылося. На рахунках беларускіх прадпрыемстваў і грамадзянаў ляжаць 800 мільёнаў долараў. Яшчэ насельніцтва мае на руках найменш 2 мільярды долараў, а маса беларускіх грошай складае каля 660 мільярдаў рублёў, ці 560 мільёнаў долараў. (Адзначым у дужках, што расійскіх рублёў на руках у насельніцтва няма. З расійскімі накапленнямі прыйдзецца пачынаць з нуля.) Такім чынам, падкрэслівае М.Кавалёў, калі заменіць прыблізна 20% нашых грошай, дык можна цалкам перайсці на долары і забыцца на дзікую інфляцыю. Аднак кансультант Нацбанка чамусьці ўпэнены, што для Беларусі «найбольш выгадна мець адзіную валюту з Расіяй, а долары вярнуць Злучаным Штатам шляхам набыцця заходняга абсталявання». Відаць, эканаміст з універсітэта імя Леніна лічыць, што насельніцтва добраахвотна аддасць свае назапашаныя 2 мільярды сённяшняй беларускай дзяржаве для закупак нейкага абсталявання. Чаму б у якасці эксперыменту прафесару Кавалёву не паказаць суграмадзянам прыклад публічнага адмаўлення ад амерыканскіх долараў.

**Яўген ГАРЭЛІК**

# Чарговая сустрэча саюзных прэм'ераў

Фота IREX/ProMedia

Чарговае паседжанне Савета міністраў так званага Саюза Беларусі і Расіі, дзеля якога ў Мінск прыязджаў расійскі прэм'ер Міхаіл Касьянаў, нікога не здзівіў нечаканкамі. Для шырокай публікі гэтыя паседжанні стабільна застаюцца загадкавымі, бо іхны парадак дня амаль не змяняецца. Гэтым разам расійскі і беларускі прэм'еры абмяркоўвалі выкананне праграмаў у сферы знешняй палітыкі краінаў-удзельніцаў Саюза, выкананне агульнага бюджэту, вынікі сумеснай праграмы па развіцці дызельнага аўтамабілебудавання, а таксама не надта прыемныя пытанні падатковай і мытнай сфераў, якія М.Касьянаў акрэсліў як «шурпатасці», а У.Ярмошын назваў «сапраўднымі цяжкасцямі». Сапраўды, сітуацыя на расійска-беларускай мяжы сёння парадаксальная. Пасля пэўных дамоўленасцяў беларускі бок паспяшаўся зняць мытныя пасты на сумеснай граніцы, затое Расія цяпер пануе там аднаасобна. На паседжанні прэм'ераў разглядаліся перспектывы расійскіх інвестыцыяў у эканоміку Беларусі. Як агульнавядома, буйны дзяржаўны сектар беларускай эканомікі цягне краіну ў мінулае, не даючы развівацца. У Расіі цяпер наперад выходзіць прыватны бізнес. Гэта ў пэўнай ступені і стане ў бліжэйшай будучыні галоўнай прычынай рыначнай экспансіі расіянаў у Беларусь. Свае галоўныя надзеі Беларусь звязвае з Расіяй, жадаючы быць самастойнай за кошт расійскіх рэсурсаў. У сваю чаргу Расія мяркуе, што калі яна дае рэсурсы, дык і кіраванне павінна падпарадкавацца расійскім патрабаванням. Гэтыя прынцыповыя «нестыкоўкі» не спрыяюць дэклараванай расійскімі і беларускімі чыноўнікамі гатоўнасці да інтэграцыі.

**Мікола РУДЫ**

# На ветэранаў не стае грошай

Бліжэйшым часам «палата» збіраецца зрабіць чарговую спробу прыняць новую рэдакцыю Закона «Аб ветэранах». Праект паправак, якія мусяць усталяваць прававы статус ветэранаў самых розных катэгорыяў і захады па іхняй сацыяльнай абароне, «палатачнікі»разглядаюць ужо ажно 2,5 гады.

Галоўная акалічнасць што да прыняцця паправак – гэта тое, што ў дзяржавы няма грошай. Таму мяркуецца, што новы закон не будзе прадугледжваць пашырэння кола асобаў, маючых права на льготы. На гэта спатрэбілася дадаткова звыш дзесятка мільярдаў рублёў.

Пад чыннасць Закона «Аб ветэранах» мусіць падпасць прыкладна чвэрць беларусаў. Зараз у краіне жывуць больш як 2 мільёны пенсіянераў, 120 тысячаў ветэранаў вайны, 45 тысячаў інвалідаў вайны, каля 30 тысячаў воінаў-інтэрнацыяналістаў.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

# Дзяржпрэміі як знак самаахвярнасці народа

Узнагароджванне лаўрэатаў Дзяржаўных прэміяў Беларусі 2000 года ў галіне навукі і мастацтва адбудзецца ў першай палове красавіка. Пра гэта было абвешчана 28 сакавіка ў Мінску на прэс-канферэнцыі, у якой удзельнічалі вучоныя сакратары двух падкамітэтаў дзяржаўных прэміяў.

Памер Дзяржаўных прэміяў насуперак крызісу ў эканоміцы штогод узрастае. Два гады таму дзяржпрэмія ў пераводзе на цвёрдую валюту складала каля 400 долараў, гэтым годам наблізілася да 1.600 долараў. Такое істотнае павелічэнне ўзнагароды сакратар расцаніў як сведчанне росту дабрабыту беларускага народа. Так гэта ці не так, судзіць людзям, якія атрымоўваюць як, прыкладам, работнікі сферы культуры 40-50 тысяч на месяц (30-35 долараў). Цяперашняя прэмія адэкватная іхнаму заробку за 4 гады працы. У пэўным сэнсе такая розніца гаворыць пра самаахвярнасць нашага насельніцтва.

Вучоны сакратар падкамітэта дзяржпрэміяў у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры В.Жук паведаміў, што канкрэтны дзень уручэння прэміяў залежыць ад ступені занятасці кіраўніка дзяржавы, які зробіць гэта асабіста. Ён адхіліў абвінавачанні ў неаб'ектыўнасці прысуджэння прэміяў. А вучоны сакратар падкамітэта па навуцы і тэхніцы паведаміў, што з 58 членаў Камітэта па дзяржпрэміях 10 — міністры, старшыні дзяржкамітэтаў і іх намеснікі, 15 — рэктары ВНУ і дырэктары навукова-даследчых інстытутаў, 23 — акадэмікі, а яшчэ 5 — дырэктары найбуйнейшых заводаў. Усе яны зацверджаныя кіраўніком дзяржавы і таму могуць прымаць кваліфікаваныя рашэнні.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

# Насельніцтва пазбавілася 400 ствалоў

Міністэрства ўнутраных справаў і Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь сумесна паведамілі аб выніках шырока разрэкламаванага месячніка здачы грамадзянамі краіны зброі і боепрыпасаў, якія захоўваліся імі незаконна. Умовай добраахвотнай здачы была гарантыя сілавых ведамстваў аб непрыцягненні ўладальнікаў нелегальнай зброі да адказнасці.

На працягу месяца, з 19 лютага па 19 сакавіка, насельніцтва добраахвотна пазбавілася болей за 30 тысячаў адзінак патронаў, пэўнай колькасці выбуховых рэчываў і 398 адзінак агнястрэльнай зброі. У ліку апошняй былі здадзеныя грамадзянамі 1 кулямёт, 1 гранатамёт, 95 наразных ствалоў, 231 гладкаствольныя ружжы і дубальтоўкі, 53 газавыя рэвальверы і пісталеты. Найбольш актыўна ў вызваленні ад зброі, якая захоўвалася без законнай падставы, паводзілі сябе жыхары Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей.

За месяц супрацоўнікі МУС праверылі больш за тысячу аб'ектаў, на якіх захоўваюцца зброя і выбуховыя рэчывы, не пакінулі без увагі тых уладальнікаў наразной зброі, якія маюць патрэбны дазвол. Па фактах парушэнняў да адказнасці прыцягнуты 638 асобаў, у тым ліку да адміністрацыйнай адказнасці -- 591. У 300 выпадках была здзейснена канфіскацыя зброі і выбуховых рэчываў.

Бясспрэчна, патрэба ў такой акцыі існавала даўно, але чамусьці МУС і КДБ правялі яе напярэдадні блізкага ўжо пачатку выбарчай прэзідэнцкай кампаніі.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

# Клафелінавы міністр?

*Міністраў абароны мяняюць не часта. Калі такое адбываецца, гэта заўсёды падзея, бо з усіх сілавікоў міністр абароны – самы магутны.*

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Генерал атрымаў падзяку за свае намаганні, за тое, што ўдалося захаваць баяздольнасць (?!!) войска, і быў адпраўлены ў ганаровую адстаўку – залічаны нават не ў рэзерв міністра абароны, а ў кадравы рэестр кіраўніка дзяржавы. Гэта азначае, што ў любы дзень Аляксандр Чумакоў можа «ўсплыць» на нейкай адказнай пасадзе ў сілавым ведамстве — хаця б у тым жа Саўбезе, які стаў своеасаблівым санаторыем для адстаўных начальнікаў, што перанапрагліся на адказных пасадах.

Што да вяртання Леаніда Мальцава ў міністэрства абароны (ён ім ужо кіраваў з ліпеня 1995 па лістапад 1996 года), то гэтую «ракіроўку» трэба разглядаць ў звязцы з іншымі прызначэннямі сілавікоў. Нагадаю, што летась Мальцаў яшчэ працаваў у Маскве, у штабе па каардынацыі войскаў краінаў СНД. Вярнулі яго з Масквы літаральна ў адзін дзень з адстаўкамі эксдзяржсакратара Віктара Шэймана, экс-генпракурора Алега Бажэлкі і экс-старшыні КГБ Уладзіміра Мацкевіча. Гэта адбылося 29 лістапада мінулага года. З сілавікоў тады захаваў за сабой пасаду адзіны Аляксандр Чумакоў, але вяртанне Мальцава ў Мінск і яму абяцала немінучую адстаўку – трэба было толькі вытрымаць паўзу, каб Мальцаў разабраўся ў беларускіх справах. Час прайшоў, і пазаўчора запланаваная тады замена стала рэальнасцю.

Але чаму Мальцаў, а не хто іншы з цяперашніх вышэйшых генералаў, быў абраны на замену Аляксандру Чумакову? Няўжо за пяць гадоў свайго знаходжання на пасадзе міністра Чумакоў не здолеў нават і пашчадніка сабе падрыхтаваць?

Як ні дзіўна, на гэтае пытанне кампетэнтныя крыніцы даюць адназначны адказ. Яны выключаюць такую магчымасць, спасылаючыся на характар і стыль кіравання былога міністра. У якасці прыкладу згадваецца лёс былога начальніка Галоўнага штаба Міхаіла Казлова, якога нядаўна адправілі ў запас, хаця патэнцыял гэтага генерала яшчэ далёка не быў выкарыстаны. Кажуць, не скалаліся адносіны з былым міністрам Чумаковым, але, магчыма, якраз таму і не скалаліся, што ў міністэрстве і штабе рэйтынг Казлова быў унушальны, а рэйтынг Чумакова зніжаўся?

А цяпер вернемся ў 1996 год, калі быў зняты з пасады Леанід Мальцаў. Фармальна Мальцава знялі за «ўчынак, не сумяшчальны з годнасцю афіцэра – з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане». Так было запісана ва ўказе прэзідэнта. Але, паводле самога ж генерала, які нейкі час быў шчыры са сваімі былымі калегамі, на той сумнавядомай нарадзе, дзе ён быццам бы выступаў нецвярозым, адбылася сапраўдная правакацыя. «Мне падсыпалі ў піва клафеліну ці нейкага іншага прэпарату» – гэтак сам генерал тлумачыў свой дзіўны стан у той момант, калі апынуўся на трыбуне перад афіцэрамі і прэзідэнтам у нецвярозым стане. Але калі верыць гэтым словам, то каму спатрэбілася «падстаўляць» міністра?

Нагадаю , калі гэта адбылося – 1 лістапада, за 26 дзён да рэферэндуму. Лёс Лукашэнкі тады вісеў на нітцы: Вярхоўны Савет 13-га склікання рыхтаваўся абвесціць яму імпічмент, але і прэзідэнт не збіраўся здавацца. Ягоныя пасланцы актыўна вербавалі прыхільнікаў сярод апазіцыі, угаворвалі, падкуплялі , прымушалі адмовіцца ад подпісаў за імпічмент. Дакладна вядома, што такія спробы «дамовіцца» з Уладзімірам Кудзінавым і Андрэем Клімавым выніку не далі, але некаторых апрацаваць удалося. Не трэба думаць, што апазіцыя ў гэты час сядзела склаўшы рукі – пэўныя захады прадпрымаліся і з таго боку. Цяпер немагчыма з дакладнасцю сказаць, чым быў прыход Генадзя Карпенкі да Леаніда Мальцава на ягоныя народзіны – спробай дамовіцца аб падтрымцы на будучыню ці проста візітам ветлівасці. Але факт застаецца фактам — Мальцаў з Карпенкам сапраўды сустрэліся і нават выпілі па чарцы. Гэта хутка стала вядома Аляксандру Лукашэнку, і літаральна на наступны дзень лёс тагачаснага міністра абароны быў вырашаны. Прычым яго не проста знялі з пасады, а публічна зняславілі, утапталі ў бруд.

Пасля такой паразы ён сас-тупіў і прыняў з рук Лукашэнкі кампенсацыю за зняважу ў выглядзе хлебнага, хаця і цалкам нязначнага месца ў нейкім каардынацыйным штабе СНГ у Маскве. Тая саступка будзе яму яшчэ дорага каштаваць, лічаць адмыслоўцы ў вайсковых справах. На іх думку, справы ў беларускім войску немагчыма змяніць да лепшага без кардынальнай змены палітычнага курсу. Ад цяперашняй стаўкі на вайсковы хаўрус з Расіяй, якая ўцягваецца ў канфлікт з мусульманскім светам і ў «халодную вайну» з Захадам, нам найхутчэй трэба вяртацца на шлях сапраўднага нейтралітэту, інакш два гэтыя магутныя жэрнавы ператруць нас у пыл.

І што, новы міністр Мальцаў зможа пераканаць кіраўніцтва дзяржавы ў неабходнасці сапраўднай вайсковай рэформы, у тым, што трэба скарачаць войска, пераводзіць яго на кантрактны лад, што грошы, заробленыя на гандлі зброяй, павінны ісці не на прэзідэнцкія забаўкі, а вяртацца вайскоўцам у выглядзе прыстойнага заробку, таннага жылля, значнай кампенсацыі ў выпадку страты здароўя? Ёсць верагоднасць, што міністру, якога аднойчы ўжо здымалі з дапамогай клафеліну, можа не хапіць мужнасці паставіць пытанне менавіта так — рубам. Як яе не хапіла за 5 гадоў Аляксандру Чумакову.

Ці ўдасца Лукашэнку з дапамогай Мальцава падняць свой аўтарытэт у войску? Разумеючы недастатковасць сымбалічных жэстаў, кіраўнік дзяржавы раздае больш канкрэтныя абяцанкі. На той жа нарадзе ў міністэрстве абароны, дзе Чумакова мянялі на Мальцава, афіцэрам было паабяцанае спансіраванне з дзяржаўнай кішэні будаўніцтва жылля. Але толькі на 30 адсоткаў. Прыкладна на такую ж частку абяцаюць падвысіць і заробкі, прычым ужо гэтай вясной. Толькі спадары афіцэры павінны памятаць – да выбараў іх будуць купляць яшчэ не раз, а пасля выбараў кінуць. Гэтыя абяцанкі – той самы клафелін, якім калісьці ўбіралі з дарогі Леаніда Мальцава.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Чаму канфрантуе Украіна?

## На пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ адказвае Юрый Мурашоў, намеснік старшыні Украінскай кансерватыўна-рэспубліканскай партыі

***— Спадар Юрый, наколькі, на Ваш погляд, апраўдана параўнанне сёняшніх падзеяў ва Украіне з беларускімі падзеямі 96-га года? Усё-ткі ўкраінізацыя ў вас ідзе, незалежнасць пакуль што за нафту не здаецца, у хаўрус з Расіяй Кучма таксама не спяшаецца...***

— З беларускага боку, з-за кардону, на жаль, не ўсё бачна. Насамрэч у нас таксама «здаецца» незалежнасць Украіны, толькі «мякка». Менавіта выключэнне з урада віцэ-прэм'ера Юліі Цімашэнкі знамянальнае: амаль адначасова Кучма з Пуціным падпісалі дамоўленасці, якія паставілі ўкраінскую эканоміку (прынамсі, энергетычны рынак) у поўную залежнасць ад Расіі. У Днепрапятроўску было падпісана шмат дамоваў, пра дакладны змест якіх не могуць зараз даznацца нават дэпутаты парламента. Вядома толькі, што Украіна поўнасцю перадаецца пад расійскія «Адзіныя энергетычныя сістэмы», што цяпер закрыты альтэрнатыўны шлях туркменскаму газу ва Украіну... Кучма зараз паціху робіць усё на карысць свайго калегі Пуціна. Акрамя таго, фактычна ў нас не даецца магчымасць развіцця нацыянальнай буржуазіі, а толькі «кампадорскай» — тым алігархам, якія не ёсць нацыянальнымі алігархамі. Гэта людзі, якія вывозяць з краіны капітал, працуюць не на Украіну.

***— Якi зараз узровень жыцця ў сярэдняга ўкраінскага грамадзяніна?***

— Некаторыя палёгкі былі з-за рэформаў Юліі Цімашэнкі на ведамасным узроўні. Яна здолела даць 9 мільярдаў чыстага прыбытку да бюджэту. Гэта ўмагчыміла расплаціцца з запазычанасцю настаўнікам, лекарам, пенсіянерам. Калі Юлія Цімашэнка паспрабавала зрабіць такую самую праграму не толькі для нафта-газавай, але і для вугальнай прамысловасці, то якраз у той момант яе адсунулі ад улады і арыштавалі. Зараз у нас нязначны рост вытворчасці, але цікавы момант: усе дасягненні з'явіліся фактычна толькі пасля таго, як на чале ўрада стаў Юшчанка. Тая частка ўрада, якая была сфармаваная Юшчанкам, працуе на Украіну. Але Юшчанка ўсё робіць, прарываючыся праз супраціў з боку прэзідэнта. Ён хоча памяняць таго ці іншага міністра – яму не даюць. Бо ў нас прэм'ер-міністр не можа мяняць урад, фактычна кіраўніком выканаўчай улады ёсць Кучма. Апошняму выгадна: усе пазітыўныя моманты ён прыпісвае сабе, негатыўныя – таму ці іншаму міністру.

***— А можа быць, пані Цімашэнка ўсё ж крала той газ?***

— Ведаеце, у чым справа? Сярод усяго, што інкрымінуецца Юліі Цімашэнка, нідзе няма пра крадзеж газу. Яе абвінавацілі толькі тады, калі яна перастала слухацца Кучму. Юлія Цімашэнка апынулася ў няміласці, калі яна стала вымагаць не бартэрнай аплаты за энерганосьбіты, а грашыма. І з Расіяй, і ў сярэдзіне краіны. Такім чынам яна дала бюджэту тыя самыя 9 мільярдаў. А Расія на яе мае вялікі зуб, таму што яна прапанавала альтэрнатыўную крыніцу газу для Украіны – з Туркменіі. Ён таннейшы. Зараз, калі Расія манапольна дае газ, яна можа падняць кошт такі, які хоча сама. Таму што Украіна не мае іншага шляху, не мае іншай мажлівасці дастаць газ. А пры наяўнасці туркменскай альтэрнатывы Расія б яшчэ падумала, які кошт усталяваць за газ, і кошт быў бы, вядома, меншы. Але менавіта гэта і выклікала такую каманду з Расіі – прыбраць Юлію Цімашэнка. Яе арышт проста быў палітычнай рэпрэсіяй за тое, што яна дазволіла сабе вострую крытыку рэжыму Кучмы, што прыядналася да руху «Украіна без Кучмы», што яна стала фактычна душою Форуму нацыянальнага выратавання.

***— Штуршком да вулічных пратэстаў у Кіеве стала «справа Гангадзе». Але нядаўна нямецкія эксперты з фірмы Genedia прыйшлі да высновы, што знойдзенае цела без галавы не належыць знікламу журналісту. Як можна гэта пракаментаваць?***

— Я гэта каментаваць не магу. Я не ведаю, наколькі салідная гэтая фірма і наколькі дакладнымі былі дадзеныя экспертам узоры. Калі яны прайшлі праз рукі масы чыноўнікаў украінскага праваахоўнага ведамства, то я вельмі сумняюся ў тым, што гэта былі якасныя ўзоры. Асабліва калі іх бралі не ў Таращчы, а на Аранжарэйнай (на вуліцы Аранжарэйнай у Кіеве знаходзіцца морг судовай экспертызы. – **Т.С.**). Мы ведаем, што абезгалоўленае таращчанскае цела было апазнанае як цела Георгія Гангадзе па шэрагу прыкмет. Чалавек, які добра ведаў зніклага, паказаў, у якім месцы на руцэ мусіў застацца асколак, якім Георгій быў паранены падчас вайны ў Грузіі. Эксперт, які нічога не ведаў пра гэты асколак, тут жа яго знайшоў і выняў. Калі б не існавала навукі генетыкі, то следства на гэтым бы і спынілася. Аднак, калі ўжо былі выпісаныя ўсе дакументы, што ідэнтыфікавалі яго як цела зніклага журналіста, і сябра нябожчыка пайшоў шукаць машыну, каб забраць цела і перадаць сваякам, цела раптоўна было выкрадзена і толькі праз тыдзень адшукалася ў моргу судовай медыцыны на Аранжарэйнай. Таму тут узнікае шэраг дэтэктыўных сюжэтаў... Я не хачу кідаць цень на нямецкую фірму, але мы бачым яе назву ўпершыню і не ведаем, наколькі дакладна было ёю ўсё зроблена.

***— Як магло атрымацца, што правая апазіцыя 9 сакавіка спаліла нацыянальны ўкраінскі сцяг (няхай нават і ідучы па слядах Кучмы), растаптала кветкі ля помніка Шаўчэнку ў дзень яго народзінаў?.. Вам не здаецца, што гэта стварае не самы лепшы імідж для апазіцыі?***

— Кучма цудоўна ведаў, што ён непажаданы госць ля помніка Шаўчэнку ў гэты дзень. Каб ён не жадаў абвастрэння сітуацыі, то мог бы, скажам, паехаць на магілу Шаўчэнкі ў Канеў і там ускласці кветкі. Ён мог бы ускласці кветкі ва Ужгарадзе, дзе быў у той момант вельмі патрэбны з-за стыхійнага бедства. Я нават у камуністычныя часы не бачыў гэткай колькасці сілавых структураў ля помніка Шаўчэнку, як у той дзень.

Лічыцца, што разам з прэзідэнтам мае права ўскладаць кветкі і прадстаўнік апазіцыі, прынамсі, ранг народнага дэпутата Украіны дазваляе яму прайсці на любое сакрэтнае прадпрыемства, не тое што да помніка. Але пачалася раніца з таго, што народны дэпутат Валянціна Семянюк — жанчына, на другі дзень пасля 8 сакавіка — падышла да міліцэйскага акружэння і паказала сваё дэпутацкае пасведчанне, каб падысці і пакласці кветкі. Яна тут жа атрымала ўдар міліцэйскай дубінкай (ляжыць у шпіталі з сатрасеннем мозгу). Натуральна, гэта выклікала вялікае абурэнне людзей, справакавала бачыўшы рашучасць вялікай дэманстрацыі, даў загад пяць з васьмі чалавек прывезці і выпусціць прылюдна. Але гэтым выпушчаным людзям не выдалі дакументы. Гэта ўсіх здзівіла: чаму? (Палкоўнік Саўчанка па тэлевізіі вечарам таго ж дня патлумачыў: людзі былі выпушчаныя толькі дзеля таго, каб заспакоіць натоўп, пасля ён збіраўся іх арыштаваць усё роўна). Паколькі тры чалавекі яшчэ знаходзіліся за кратамі, то людзі ў рэшце рэшт пайшлі па Хрышчаціку паўз кабінета



Фота IREX/ProMedia

сілавыя меры з боку апазіцыі, якая спрабавала прарваць кардон каля помніка. Журналістка Таццяна Чарнавол паспрабавала ўкрыцца ад сутычкі на высокім плоце каля універсітэта. У часопісе «ПІК» быў фотаздымак, дзе паказана, як міліцыя скінула яе ўніз. Яна ўпала на спіну, яе тут жа збілі і зацягнулі ў машыну. (Трэба дадаць, што ў Таццяны Чарнавол выбіты дыск пазваночніка. –**Т.С.**)

Калі Кучма з'ехаў і пачаўся мітынг, арыштоўвалі людзей, якія проста адышлі ўбок папаліць ці выпіць кавы. Такім чынам было арыштавана 8 чалавек. Таму, калі людзі падышлі да помніка, усё, чаго датыкаліся рукі Кучмы, здавалася апаганеным. Дарэчы, быў парваны **не ўкраінскі сцяг, а стужка з надпісам «Ад прэзідэнта Кучмы».** Уявіце сябе на іх месцы ў той час, калі адбываліся ўсе гэтыя крывавыя падзеі. І вось кветкі Кучмы будуць стаяць тут – кветкі чалавека, якога невядома, ці сам Тарас Шаўчэнка падпусціў бы да сябе? Кветкі былі выкінутыя, бо з боку прэзідэнта гэта было крывадушша. Ён думаў не пра Украіну, а пра свой прэстыж.

Апошні раз арыштоўвалі ля помніка Шаўчэнку ледзь не ў 70-я гады. Хоць не, было і ў 89-м... Людзі прыйшлі да ўпраўлення гарадской міліцыі і сталі патрабаваць вызвалення затрыманых. Палкоўнік Саўчанка, адзін з яе кіраўнікоў, пабачыўшы рашучасць... міністраў, паўз міністэрства ўнутраных справаў. Хоць стаяў АМАП, усё было, у прынцыпе, нармальна, калі не лічыць некалькіх кінутых яек у прахадную МУС. Але абышлося без сутычак. Міліцыя доўга адмаўляла факт, што яшчэ ёсць нейкія затрыманыя, потым дала неправераную інфармацыю, што яны ўжо на волі. Але ніхто іх не бачыў, тых трох чалавек. Зноў вяртаючыся на Хрышчацік, дэманстранты праходзілі паўз вуліцу Банкаўскую. Яна была не па ходзе шэсця, а збоку. Толькі падышлі да скрыжавання, як бакавую вуліцу перагарадзіў АМАП... Вы ведаеце, дзе месца перад палацам прэзідэнта. Як думаеце, там багата камення валялася?

***— Наўрад ці. Хіба нехта раней прынёс і склаў, як было ў Мінску 17 кастрычніка...***

— Няўжо вы думаеце, што нашым людзям няма чаго рабіць, як цягнуць на сабе туды торбы з цэглаю? Гэта занадта. Але з'явіліся нейкія маладзёны, пачалі кідаць каменне ў ахову рэзідэнцыі Кучмы. І кінуліся ўрукапашную. Зараз ужо рэтраспектыўна здаецца нам, што практычна бойкі не было, там было проста размахванне кійкамі. Унсоўцы сказалі, што пабягуць туды, каб спыніць бойку. І калі яны адсунулі тых правакатараў, то АМАП замест таго, каб затрымліваць нападнікаў і абараняць свой рубеж, пачаў наступаць. Узнікла пагроза, што пачнуць біць дэманстрантаў. Уперад выйшлі праваабаронцы і зрабілі, як заўжды, «сценку» паміж двума бакамі. Там стаў Уладзімір Чэмерыс (Чэмерыс – адзін з каардынатараў студэнцкай галадоўкі на Майдане Незалежнасці ў 1990 годзе, потым дэпутат украінскага парламента; зараз – каардынатар вулічных акцыяў камітэта «Украіна без Кучмы». — **Т.С.**). Гэта было потым пададзена як правакацыя, але ён стаяў падняўшы рукі і нічога не рабіў. Даходзіць АМАП і асабіста Чэмерыса «вырубае». Я сам яго выцягваў адтуль, бо баяўся, што затопчуць. Пасля гэтага міліцыя пачала кідаць шашкі са слезацечным газам у натоўп. Заставалася альбо дыхаць слезацечным газам, або вярнуць яго міліцыі. І унсоўцы, і іншыя пачалі хапаць тыя шашкі і кідаць назад. Па тэлебачанні паказвалі потым, як натоўп закідвае чымсьці гаручым (нехта гэта ўспрымаў як «кактэйль Молатава» ў пляшках) міліцыю.

Міліцыя перастала наступаць, пабачыўшы, што тут сіла досыць вялікая, і зрабіла «чарапаху» — закрылася з усіх бакоў шчытамі, у тым ліку і зверху. Людзі развярнуліся ды пайшлі далей. Міліцыя, а дакладней атрад «Беркут», сустрэла ўнсоўцаў, калі тыя вярталіся назад. Іх перастрэлі, пабілі і захапілі каля 150 чалавек. Беркутаўцы яшчэ і разграмілі офісы Украінскай нацыянальнай асамблеі, нашай Украінскай кансерватыўна-рэспубліканскай партыі ды прафсуполкі працаўнікоў Вярхоўнай Рады. Хоць там была шыльдачка з надпісам... Патрушчылі ўсё, што маглі. Мноства людзей узялі проста таму, што тыя або гаварылі ўкраінскай мовай, і міліцыі здалося, што яны прыезджыя, або мелі на грудзях нейкія значкі патрыятычныя. Былі страшэнныя выпадкі збіцця, чэрапна-мазгавыя траўмы, дужа багата было збіта людзей. Што мяне здзівіла: сапраўды, нейкі беларускі варыянт, калі бяруць не падчас акцыі, а пасля яе.

***— Як вы ставіцеся да версіі, што са знікненнем Гіі Гангадзэ і « касетным скандалам» Кучму «падставіла» Масква? (Іншы варыянт – заходнія спецслужбы).***

— Нас цікавіць адна рэч: ці сапраўды ў нас прэзідэнт-злачынец, ці не? Нас зусім не цікавіць падача, з якой мы маем гэтыя факты. Калі б Кучма быў прэзідэнтам Злучаных Штатаў, колькі б ён пратрымаўся на пасадзе з тымі самымі фактамі? Мы бачым велічэзную колькасць тых запісаў, сабраных цягам досыць значнага перыяду часу. І такую колькасць запісаў сфальсіфікаваць? Віцэ-прэм'ер Мароз прадэманстраваў толькі маленькі ўрывак, а запісана дзесьці трыста метраў стужкі. Зараз яшчэ не скончана расшыфроўка ўсяе стужкі. І ў Мароза ёсць эпізоды, якія стасуюцца канкрэтна Гангадзе. Але ёсць эпізоды і іншыя: скажам, тыя, дзе чалавек з голасам, падобным на голас Кучмы, абмяркоўвае з чалавекам, голас якога падобны на голас нашага галоўнага падаткоўца Азарава, як ратаваць алігарха Бакая, які надта пагана вядзе дакументацыю, і таму вылезла на паверхню яго цёмная бухгалтэрыя. Або як трэба ціснуць на старшынь калгасаў, каб сяло галасавала за Кучму. Што ў яго, маўляў, ёсць кампрамат на іх, трэба прыціснуць, каб яны арганізавалі галасаванне за Кучму. Мы бачым на практыцы, як вяртаецца старая каманднa-адміністратыўная сістэма. Раней структура была: першы сакратар-сакратары абкамаў - гаркамаў і г.д. А зараз – прадстаўнікі прэзідэнта або главы дзяржаўных адміністрацыяў абласцей, гарадоў, раёнаў, якія прызначаюцца асабіста Кучмам.

***— Гэта надта падобна на лукашэнкаўскую «вертыкаль».***

— А выкарыстанне гэтай «вертыкалі» на выбарах ці падчас масавых палітычных кампаніяў называецца лагодна — «адміністратыўны рэсурс». Гэта калі галава раённай вертыкалі збірае дырэктараў школ і кажа: хочаце быць дырэктарамі школ? Каб вы мне забяспечылі подпісы ўсіх вашых настаўнікаў пад зваротам у падтрымку Кучмы. Мы выступаем супраць гэтага неакамуністычнага рэжыму Кучмы.

***— Ці рэальны сыход Кучмы ў адстаўку, улічваючы, што інфармацыя пра зняцце з пасады кіраўніка ўкраінскага МУС Юрыя Краўчанкі падаецца СМІ як факт? Што будзе далей, пасля Кучмы?***

— Кучма становіцца неэфектыўным нават для ўласнага клана. Кучма, які страціў і ўнутраны, і міжнародны аўтарытэт, не можа ўжо забяспечыць абарону інтарэсаў тых людзей, намаганнямі якіх ён трымаецца за ўладу. Тым ці іншым шляхам ён сыдзе, і гэта будзе хутка. У выпадку сыходу Кучмы, згодна з канстытуцыяй Украіны, выконваць абавязкі прэзідэнта 90 дзён будзе прэм'ер-міністр, які патрэбны для падрыхтоўкі прэзідэнцкіх выбараў. Паколькі яму не будзе падпарадкоўвацца ніякая вертыкаль, то гэта будуць выбары не пад патранатам прэзідэнта. Гэта будуць вольныя выбары. Я думаю, што, апёкшыся на Кучме, выбаршчык будзе больш абачлівым. Заслуга Кучмы ў тым, што ён аб'яднаў апазіцыю, гэта стварае магчымасць абрання на прэзідэнта кагосьці з патрыятычных сілаў. Здольнымі палітыкамі і патрыётамі паказалі сябе і Тарас Чарнавіл, і Юлія Цімашэнка... якая прызнаецца, што стала гаварыць украінскаю мовай пасля таго, як стала віцэ-прэм'ерам. Але яе дзейнасць у эканоміцы дала нашмат больш Украіне, чым мармытанне ўкраінскаю моваю антыўкраінскіх дзеячаў.

**Гутарыла Таццяна СНІТКО**

